**У НУМАРЫ**

Праца для інвалідаў

Фэстын у Літвінавічах

Новыя вершы А. Барскага, Л. Танкевіча і К. Бандарука

«Курпі зялёныя» ў суседзяў за мяжой

З Беластока ў Манголію

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (805) ГОД XVI БЕЛАСТОК 1 ЖНІЎНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.



*Гарадчанкі.*

Фота Цаф — Савіцкі

## ГАВОРАЦЬ ГАСПАДАРЫ

Гэты сход адбыўся ў Гайнаўцы. Удзельнічалі ў ім гаспадары з некалькіх грамадскіх рад павета. На сход я трапіў выпадкова. Калі я ўвайшоў, якраз ішлі спрэчкі. Спрэчкі не датычыліся выключна даклада, а проста, па-вясковаму, усіх балючых спраў вёскі.

Якраз выступаў намеснік старшыні павятовай рады Каліноўскі. Гаварыў ён аб увядзенні планавага будаўніцтва на Гайнаўшчыне. Пастанова павятовай рады ў гэтай справе зводзіцца да таго, каб гаспадар, які пачынае будавацца, мог будову павесці хутка, а гандлёвыя ўстановы павінны ў першую чаргу яму прадаць цэмент, вапна ці іншы матэрыял. Гаворачы аб сельскагаспадарчай прадукцыі, намеснік старшыні напомніў, што ў Гайнаўскім павеце ў даны момант знаходзіцца 3 тысячы гектараў зямлі (ПФЗ), якая не мае гаспадара. Інакш гаворачы, 10 працэнтаў грунтаў у Гайнаўскім не выкарыстоўваецца для павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі. «Мы павінны рабіць усё, — закончыў старшыня Каліноўскі, — каб гэтая зямля радзіла і не была бяспанскай».

Сядзеўшыя на сходзе дзядзькі, паківалі галовамі, некаторыя сказалі пацiху «а-я-яй»!, а сход прадаўжаў работу. Ніхто больш на тэму загаспадарання трох тысяч гектараў зямлі не гаварыў, бо і што ж можа сказаць дзядзька з Навасад, Збуча ці Арэшкава, гаспадарачы на 7—10 гектарах сваёй зямлі. Яму таксама як гаспадару баліць сярэдзіна за гэта. Расчараваў мяне толькі той факт, што старшыня Каліноўскі сказаў: «Зробім усё», але не сказаў, што канкрэтна прадугледжваецца рабіць і якая тут патрэбна дапамога гаспадароў. Бо, фактычна, мы не можам дазволіць на такі люксус, каб 3 тысячы гектараў зямлі заставаліся бяспанскай.

Раздумваючы над справамі зямлі, я не паспеў запісаць нават прозвішча гаспадара з Арэшкава, які ўзяў слова. Паводле яго слоў, гаспадарыць ён на пяці гектарах ворнай зямлі і гадуе 7 кароў. З гэтай прычыны мае ён вельмі многа гною. «Як раскіну гэты гной на полі, то ейбогу зямлі не відаць», — гаварыў. Дзядзька з Арэшкава расказаў, што мае ён сельскагаспадарчую бібліятэку, якая складаецца з 20 — 30-ці кніжак. Чытаючы гэтыя кніжкі, дайшоў ён да вываду (тут спаслаўся на ву-

Працяг на стар. 4



## ПРАЦА ДЛЯ ІНВАЛІДАЎ

Звыш 150 пакрыўджаных лёсам чалавек дзякуючы гэтай спулдзельні знаходзіць працу, якая вяртае ім веру ў сваю прыдатнасць для грамадства, у сваю вартасць як чалавека. Адначасова спулдзельня дае сродкі на ўтрыманне. Заработная плата аб'яднаных і працуючых у спулдзельні даволі высокая. У сярэднім за мінулы год склала яна 2100 зл. у месяц. Апрача гэтага,

Няшчасці, як кажуць, ходзяць па людзях і ні прозвішчаў, ні дазволу ў іх не пытаюць. Нейкага дня сустракае чалавека гэтая чорная хвіліна і ён становіцца інвалідам. Адчувае сябе няпаўнавартасным чалавекам, бо не хапае яму сіл змагацца з жыццём нароўні са здаровымі людзьмі. Добра, калі тады знойдзецца хтосьці, хто працягне дапаможную, сяброўскую руку.

Такім сябрам інвалідаў на Беласточчыне з'яўляецца *Ваяводская гандлёвая спулдзельня інвалідаў «Падляшша»*.

кожны працаўнік спулдзельні атрымоўвае гадавую прэмію, — так званую «трынаццатку», — у вышыні не меншай ад месячнай зарплаты.

— Наша спулдзельня, — інфармуе старшыня Людвік Селяхоўскі, — існуе ад 1 красавіка 1954 года. Хаця так склалася, што распачала яна сваё жыццё ў дзень прыма-апрыліс, то аднак не быў гэта вясёлы жарт нашых улад. Неабходна было наладзіць прадуманую, планавую і доўгатэрміновую дапамогу інвалідам, перш за ўсё пацярпеўшым на вайне. І гэта, між іншым, прыняла на сябе наша спулдзельня. Мы займаемся гандлем. Прадаем спажывецкія прадукты, халодныя напіткі, цукеркі, вопратку і розныя тканіны. Нашы крамы знаходзяцца ў Беластоку і ў Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Дуброўскім, Лапскім, Манецкім і Сакольскім паветах.

Аказваецца аднак, што найбольш кіёскаў і крамаў пад шыльдай «Падляшша» ёсць менавіта ў Гайнаўскім павеце. Знаходзяцца яны ў Белавежы, Гайнаўцы, Нарве, Нараўцы і Кляшчэлях. Старшыня Селяхоўскі хваліць гэтыя крамы.

— У Гайнаўцы і ў Белавежы, — гаворыць ён, — прадаюць яны розных тавараў на 120—300 тысяч злотых у месяц. У Гайнаўскім павеце, а таксама і ў іншых паветах, ахвотна адкрылі б мы новыя свае гандлёвыя пляцоўкі. Але не хапае нам грошай на пабудову крамаў. Калі б аднак нейкі грамадзянін

Працяг на стар. 4



*Наступіла жніўная пара.*

Фота Цаф — Сянько

## БГКТ ХРОНІКА

### ФЭСТЫН У ЛІТВІНАВІЧАХ

20 чэрвеня г. г. у Літвінавічах (Сямяціцкі павет) адбыўся фэстын, прысвечаны 15-годдзю БГКТ. Арганізатарамі фэстына былі: праўленне БГКТ у Мілейчыцах і гурток БГКТ у Літвінавічах. Суарганізатарамі — палітычныя і грамадскія арганізацыі Сямяціцкага павета.

У фэстыне ўдзельнічалі прадстаўнікі павятовых улад: сакратар прапаганды ПК ПАРП Вацлаў Майсюшка, сакратар прэзідыума павятовай рады нарадовай Пётр Новік, намеснік старшыні ПЗГС Ян Грыгарук, старшыня прэзідыума грамадскай рады нарадовай у Клюковічах Уладзімір Дамарук. Галоўнае праўленне БГКТ прадстаўляў член прэзідыума ГП БГКТ Сымон Шыманюк.

Адкрыў фэстын старшыня ПГРН у Клюковічах Уладзімір Дамарук. Даклад аб пятнаццацігадовых дасягненнях БГКТ зрабіў старшыня праўлення аддзела БГКТ у Мілейчыцах Анатоль Мартыновіч. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на дзейнасць таварыства і яго ўклад у развіццё Сямяціцкага павета.

Затым выступіў сакратар ПК ПАРП у Сямяцічах Вацлаў Майсюшка, які звярнуў увагу на гаспадарчае становішча павета і грамады Клюковічы, падкрэсліваючы вялікі ўклад БГКТ у ажыццяўленне планавых задач.

Пасля адбылася мастацкая частка, у якой выступілі беларускія аматарскія калектывы з Мікуліч, Мілейчыц, Літвінавіч і Вілінава. Выступіў таксама калектыў павятовага дома культуры з Сямяціч.

Пасля мастацкіх выступленняў адбыўся паказ моды, які арганізаваў ПЗГС у Сямяцічах.

Затым мілейчыцкія пажарнікі паказалі сваю спраўнасць у гашэнні пажару.

Мерапрыемстваў было шмат. Ліга абароны краіны арганізавала матацыклетныя спаборніцтвы на «Залатую каску», ЛЗС — конкурс вясковага асілка. А потым адбыўся конкурс пад лозунгам «Мікрафон для ўсіх». Прыняло ў ім удзел 15 асоб. Выконвалі яны беларускія песні. Іншым быў конкурс на тэму «Што ведаеш аб БГКТ?»

Вельмі цікавым быў конкурс узлажвання на слуп. На 8 аматараў гэтага спаборніцтва перамаглі 2 асобы. Апрача гэтага, адбыліся кніжная (арганізавана Домам кнігі ў Сямяцічах) і фантавая латарэі і кірмаш выдавецтваў БГКТ.

Вельмі добрае было забеспячэнне фэстына напіткамі і прадуктамі. За гэта належыцца ўдзячнасць ГС-ам у Мілейчыцах і станцыі Нурэц.

М. Вішанка

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### НА МЕСЯЦ

Сёння, 26 ліпеня, калі аддаем гэты матэрыял да друку, у 14 гадзін 32 мінуты стартуе пятая амерыканская экспедыцыя на Месяц. Касманаўты Дэвід Скот, маёр Альфрэд Уордэн і падпалкоўнік Джэмс Ірвін адпраўляюцца на касмічным караблі «Апалон — 15». Атрымаў ён названне «Endeavour» («Проба») на памяць марскому караблю з такім жа названнем, на якім вядомы адзінокі англійскі мараплавец Джэмс Кук пераплыў у 1868 годзе Ціхі акіян.

Камандзір карабля Дэвід Скот з'яўляецца вопытным касманаўтам. Прыймаў ён удзел у касмічных экспедыцыях у 1966 годзе на караблі «Жэміні — 8» і ў 1969 годзе на «Апалоне — 9». Палёт «Апалона — 15» мае працягвацца каля 300 гадзін, г. зн. на 60 гадзін даўжэй, чым «Апалона — 14».

Спецыяльным лунаходам амерыканскія касманаўты маюць намер праехаць больш 30 кіламетраў па паверхні Месяца.

### «ПАРТЫЯ МІРУ»

«Партыя міру» — такую назву атрымала новая палітычная партыя ў ЗША, у якую ўвайшлі амерыканцы, якія на свае вочы пераканаліся, што абедзве вядучыя палітычныя партыі краіны — рэспубліканская і дэмакратычная — не адпавядаюць іх патрэбам, абараняюць толькі інтарэсы ваенна-прамысловага камплексу ЗША.

«Партыя міру» заявіла аб намеры выставіць свайго кандыдата на выбарах прэзідэнта ЗША ў 1972 годзе.

### СУСТРЭЧА

18 ліпеня адбылася сустрэча Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. Брэжнева і Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Падгорнага з Першым сакратаром ЦК ПАРП Э. Геракам і Старшынёй Дзяржаўнай Рады Польшчы З. Цыранкевічам, якія знаходзіліся на адпачынку ў Савецкім Саюзе.

У ходзе гутаркі бакі ўзаемна праінфармавалі адзін другога аб ходзе камуністычнага і сацыялістычнага будаўніцтва ў абедзвюх краінах і з глыбокім задавальненнем адзначылі паспяховае развіццё ўсебаковых сувязей. Адбыўся таксама абмен думкамі па шэрагу актуальных міжнародных пытанняў.

### УСХОДНЕПАКІСТАНСКІЯ БЕЖАНЦЫ

У Індыі знаходзіцца 6 833 тысяч ўсходнепакістанскіх бежанцаў. Пераважная колькасць бежанцаў — 5 225 тысяч па-ранейшаму размясцілася ў штаце Заходняй Бенгаліі. У спецыяльна абсталяваных лагерах ва ўнутраных раёнах пагранічных штатаў Заходняй Бенгаліі — Асам і Трыпула, а таксама ў штатах Біхар, Мадх'я, Прадэеж і Прадзеж Утар, дзе знаходзіцца каля 173 тысяч чалавек.

Колькасць усходнепакістанскіх бежанцаў у Індыі з кожным днём павялічваецца.

### НАРКАМАНІЯ

З года ў год павялічваецца ў Францыі колькасць наркаманаў. У мінулым годзе арыштавана тут 1637 чалавек, якія прымянялі наркотыкі. У першай палавіне цякучага года ўжо арыштавана 900 наркаманаў. (ак)



## БССР

### БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ

13-га чэрвеня 1971 года быў выбраны Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

У яго саставе, як сцвердзіла Мандатная камісія, 425 дэпутатаў. Аднак 2 з іх — С. О. Прытыцкі і В. П. Палескі-Станкевіч — не дачакаліся першай сесіі нававыбранага беларускага парламента. Іх дзейнасць і жыццё спыніла смерць. Сярод цяперашніх дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР аж 336 чалавек (79%), якія не з'яўляліся дэпутатамі папярэдняга склікання.

З якіх тады грамадскіх слаёў выводзяцца прадстаўнікі народа? 214 дэпутатаў (50,4%) працуюць непасрэдна на вытворчасці; з іх 112 рабочых і 102 калгаснікі. Сярод дэпутатаў 19 кіраўнікоў прадпрыемстваў, начальнікаў цэхаў і змен, 23 старшыні калгасаў, 5 дырэктараў саўгасаў, 8 спецыялістаў сельскай гаспадаркі, 18 механізатараў, 69 даярак, свінарак і іншых работнікаў жывёлагадоўчых ферм, 23 прадстаўнікі Савецкай Арміі. Жанчын налічваецца 157, што складае 36,9%. Сярод іх — шмат Гераінь Сацыялістычнай Працы.

У Вярхоўны Савет БССР выбраны прадстаўнікі 6-ці нацыянальнасцей. Найбольш, зразумела, беларусаў, іх 331 чалавек, 76 рускіх, 5 украінцаў і 13 дэпутатаў іншых нацыянальнасцей. Варта яшчэ адзначыць, што аж 222 дэпутаты (52,23%) — гэта людзі з вышэйшай і незакончанай вышэйшай адукацыяй. Усе гэтыя дадзеныя паказваюць на тое, што беларускі парламент 8-га склікання з'яўляецца поўнасцю кампетэнтным органам для вырашэння найбольш істотных праблем ва ўсіх галінах існавання і развіцця рэспублікі.

Першая двухдзённая сесія Вярхоўнага Савета БССР адбылася 15-га і 16-га ліпеня 1971 года. Была яна вельмі працавітая. Дэпутаты выбралі Старшыню Вярхоўнага Савета БССР у асобе вядомага літаратара Івана Пятровіча Шамякіна. Яго намеснікамі асталіся: Р. П. Унук, У. М. Калачык, Л. Я. Талецкая, М. Ф. Галалобаў. Выбралі яны таксама 19-ціасабовы Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, які ўзначаліў Фёдар Анісімавіч Сурганаў.

Затым Вярхоўны Савет БССР на гэтай жа сесіі адобрыў дзейнасць Савета Міністраў Беларускай ССР і паўторна назначыў старшынёй Савета Міністраў БССР таварыша Кісялёва Ціхана Якаўлевіча і даручыў яму прадставіць прапановы аб саставе Урада Беларускай ССР. Па прапанове Ц. Я. Кісялёва састаў урада БССР быў аднагалосна зацверджаны дэпутатамі. Ён складаецца са Старшыні Савета Міністраў БССР, 6-ці яго намеснікаў, 28-мі міністраў і 13-ці старшынь або начальнікаў цэнтральных рэспубліканскіх органаў. Для прыкладу, міністрам замежных спраў БССР з'яўляецца цяпер А. Е. Гурыновіч. (вр)



## ПОЛЬШЧА

Мінулы тыдзень прайшоў у нас пад знакам нацыянальнага свята — 27-ай гадавіны Ліпнёвага Маніфеста ПКВН. Як ніколі, у гэтым годзе было наша свята перапоўнена надзеяй і радасным уздымам працы.

А вось найважнейшыя факты і здарэнні, звязаныя з 22 Ліпеня.

### БУДАЎНІЧЫ НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ

Ордэн «Будаўнічы Народнай Польшчы» з'яўляецца найвышэйшым дзяржаўным адзначэннем ПРН. Аж 19 асоб у гэтым годзе напярэдадні 22-га ліпеня атрымала з рук Эдварда Герка, Юзэфа Цыранкевіча і Пятра Ярашэвіча гэтае адзначэнне. Кідаецца ў вочы факт, што адзначанымі ў гэтым годзе з'яўляюцца рабочыя — шафёры, металургі, суднабудаўнікі, тэкстыльшчыкі — людзі, якія непасрэдна ў штодзённай працы прадукуюць дабро.

Сярод адзначаных многа сялян, а гэта падкрэслівае ролю сельскай гаспадаркі ў жыцці і значэнне працы гаспадара.

Штандар Працы I класа атрымала 6 асоб, Штандар Працы II класа — 7 асоб, Крыж Камандорскі Ордэна Адраджэння Польшчы — 10 асоб, Афіцэрскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы — 13 асоб, Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы — 24 асобы.

### ДНЁМ У СЕРАДУ 21-ГА ЛІПЕНЯ...

Эдвард Герак, Юзэф Цыранкевіч і Пётр Ярашэвіч прыбылі на злёт моладзі ў Катавіцы. У вялікім спартыўным амфітэатры Эдвард Герак выступіў да моладзі з прамовай. Як жа па іншаму прагучэла гэтае яснае, лагічнае выступленне! Кожнае слова мае тут сваё месца і сэнс. Няма недасказанага, няма месца на супакаенне. Калі хто не чуў, ці не чытаў прамовы Э. Герка ў Катавіцах, абавязкава павінен з ёю пазнаёміцца. Знойдзе тут для сябе важны штуршок у жыцці і працы.

Таварыш Э. Герак сказаў між іншым: «Нашы дагэтуляшнія 27-гадовыя дасягненні вялікія. Але цяпер перад нашым народам стаяць далейшыя, большыя, цяжэйшыя заданні. Найперш, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, якая зменіць Польшчу ў краіну сільную і дынамічную... Павінны мы як найхутчэй зліквідаваць усялякую адсталасць у гаспадарцы, культуры, у абычаях. Хочам, каб нашы варштаты працы ў горадзе і на вёсцы былі забяспечаны спраўнымі і выдайнымі машынамі, каб нашы гарады і нашы дамы былі будаваны з думкай аб лепшым жыцці для людзей гарадоў і вёсак, хочам і таго, каб жыццё палегчала нам развіваючаяся матарызацыя, каб краіну перасякла сетка сучасных камунікацыйных артэрый, каб у кожнай хаце было сучаснае абсталяванне, якое палегчыць працу нашым сёстрам, маткам і жонкам».

Першы сакратар падкрэсліў, што дарогай, і то адзінай, да гэтага — нашая сумленная і выдайная праца і навука, кожнага, на кожным месцы, у кожным кутку. Няма чакання, няма аглядкі на іншых. Лічыцца ініцыятыва кожнага, і трэба смела і як найбольш з сябе даваць працы і дбайнасці пра агульнае дабро. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### СВЯТОЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ

З нагоды 27-ай гадавіны адраджэння Польшчы ў адрас І-га сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, тав. А. Лашэвіча паступіла прывітальная тэлеграма ад Абласнога камітэта Кампартыі Беларусі і Выканаўчага камітэта абласнога савета дэпутатаў працоўных у Гродне, у якой між іншым сцвярджаецца: «Камуністы і ўсе працоўныя Гродзеньскай вобласці сардэчна паздраўляюць Вас і ўсіх працоўных Беласточчыны з нагоды вялікага свята польскага народа — Адраджэння Польшчы...»

Падобную прывітальную тэлеграму прадстаўнікі Гродзеншчыны прыслалі старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку — С. Жмійку.

Сардэчныя прывітанні ад грамадскасці гарадоў Гродна і Каўнаса паступілі ў адрас партыйных і адміністрацыйных улад горада Беластока. Ва ўсіх прывітальных тэлеграмах даецца сардэчны выраз пачуццю дружбы братніх народаў. Нашыя сябры з-за мяжы жадаюць усім нам добрага здароўя і паспяховага развіцця гаспадаркі.

### НАШ ЭКСПАРТ

Прэзідыум ВРН у Беластоку ацаніў ажыццяўленне праграмы экспарту ў першым паўгоддзі 1971 года. Прадпрыемствы Беласточчыны выслалі ў замежныя краіны на звыш 14 працэнт больш тавараў, чымсьці ў першым паўгоддзі папярэдняга года. Іх вартасць ацэньваюць на звыш 76 мільёнаў зл. (дэвізовых). Штораз больш прадаем за мяжу станкоў і машынаабсталявання. Адным з буйнейшых экспарцёраў з'яўляецца Гайнаўскі дрэвапераапрацоўчы камбінат.

### СУСТРЭЧА СКУЛЬПТАРАЎ

Ужо пяты раз скульптары з усёй краіны сустракаюцца ў Гайнаўцы. Карыстаючы з гасціннасці дрэвапераапрацоўчага камбіната, амаль 20 майстраў з-пад знаку долата перакоўваюць свае мастацкія замыслы ў высакароднае дрэва — магонь, арэх і т. п. Дапамагаюць ім гайнаўскія рабочыя.

### ЗАКЛІК

Прэзідыум Ваяводскага камітэта Фронта адзінства народа ў Беластоку звярнуўся з заклікам да ўсіх жыхароў Беластоцкага ваяводства, каб надалей не шкадавалі грошай на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. У закліку адзначаецца, што на працягу апошніх пяці год на Беласточчыне было сабрана 290 мільёнаў злотых, за якія пабудавана ў вёсках і гарадах 24 новыя пачатковыя школы, тэхнікум драўлянай прамысловасці ў Гайнаўцы, будуюцца зараз 5 сельскагаспадарчых школ і 3 інтэрнаты. Дзякуючы гэтаму фонду пабудавана таксама 11 асяродкаў здароўя; 21 будынак для настаўнікаў, 4 дзіцячыя сады, 2 аптэкі, 3 дамы культуры, 73 памешканні для медслужбы, разбудавана 25 школ. Далейшы збор складчын будзе праходзіць пад лозунгам: «Народ сваёй моладзі».

### ПАЖАРЫ

На працягу трох тыдняў ліпеня на Беласточчыне здарылася 76 пажараў. (вр)





**Niedziela, 1 sierpnia**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1971”. 8.40 „Przypominamy, radzimy”. 9.00 „Zamach” — film fab. pol. 10.25 „Rewia młodości” — rep. z II Ogólnopolskiej Spartakiady Młodzieży. 11.30 „Skarby Ermitażu” — Obrazy von Dycka. 13.15 Program dnia. 13.20 Dziennik. 13.35 „Bawcie się z nami”. 14.20 „Przemiany”. 14.50 PKF. 15.00 Estrada Literacka: Z. Jerzyna — „Gorący ślad”. 16.00 Sprawozdanie z trójmeczu lekkoatletycznego: Czechosłowacja — Polska — Węgry (Bratysława). 18.00 „FAMA 71” — Laureaci Studenckiego Festiwalu Zespołów Artystycznych (Szczecin). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „1914 — 1918” — film dok. franc. 21.30 „Rozsiewane wiatrem...” — rep. poetycki. 22.10 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek, 2 sierpnia**

15.55 Program dnia. 16.00 Międzypaństwowy mecz w kolarstwie torowym Polska — Holandia. 17.00 Dziennik. 17.10 Dla dzieci: „Opowieści o zwierzętach”. 17.35 „Echo stadionu”. 18.00 „Portret miasta” — rep. ze Szwajcarii. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 2[illegible] Teatr TV: M. Frisch — „Don Juan czyli miłość do geometrii”. 21.30 „Bezdroża” — rep. 21.50 „Dzisiaj: Gianni Morandi” — program rozr. wł. 22.20 Dziennik.

**Wtorek, 3 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli: Program inauguracyjny. 9.30 Fizyka dla nauczycieli: „Atomowa teoria budowy materii” cz. I. 10.00 „Naprzód marsz” — film fab. wł. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „W gąszczu spraw”. Program wiejski. 17.30 „Dwie niedziele w Boliwii” — film pol. 17.45 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Naprzód marsz” — film fab. wł. 21.40 „Kontakty”. 22.10 „Wieczór z Waldemarem” — program rozr. TV Czechosłowackiej. 22.50 Dziennik.

**Środa, 4 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli: „Atomowa teoria budowy materii” cz. II. 9.30 Fizyka dla nauczycieli: „Atomowa teoria budowy materii” cz. III. 10.00 „Randall i duch Hopkirka” — film ang. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie”. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „O sztuce wypoczywania” („Polak pracuje”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Randal i duch Hopkirka” — film ang. 20.55 „Światowid”. 21.25 „10 razy Sopot” — wspomnienia o 2-gim Festiwalu (1962). 21.55 „Ucieczka” — rep. film. 22.20 PKF. 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 5 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli: „Metodyka realizacji działu „Budowa atomu”. 9.30 Fizyka dla nauczycieli: „Metodyka realizacji działu „Model budowy gazów i cieczy”. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Międzynarodowy mitting lekkoatletyczny (transmisja ze stadionu KS „SKRA”). 18.30 „Koncert muzyki polskiej” — przekrój muzyki polskiej od Renesansu do Romantyzmu. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dzienn 20.00 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu bokserskiego Polska — USA. 22.30 Dziennik.

**Piątek, 6 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli: „Metodyka realizacji działu „Model budowy ciała stałego”. 9.30 Fizyka dla nauczycieli: „Elementy fizyki ciała stałego” cz. II. 10.00 „Ich dwoje i chłopiec” — film fab. bułg. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pora na Telesfora”. 17.50 „Nie tylko dla Pań”. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 Magazyn Medyczny. 18.55 „Magnetofony pradziadków” — film rozr. węg. 19.10 „W grodzie Giedymina” — rep. z Wilna. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Grają orkiestry dęte”. 20.30 „Kraj”. 21.10 VIII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: H. Worcell — „Widzę stąd Sudety”. 22.30 Dziennik.

**Sobota, 7 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli: „Elementy fizyki ciała stałego” cz. III. 9.30 Fizyka dla nauczycieli: „Elementy fizyki ciała stałego” cz. IV 10.00 „Zemsta OAS” — film fab. franc.-wł. 16.25 Program dnia. 16.30 Program tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Magazyn ITP. 17.15 „Na szlaku” — program turystyczny. 17.40 „Nowości wydawnicze miesiąca”. 17.50 „Artyści areny”. 18. „Spotkania z przyrodą”. 18.40 „W stronę morza” — rep. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Uśmiech i piosenka francuska”. 21.20 Dziennik. 21.35 Wiadomości sportowe. 21.50 „Zemsta OAS” — film fab. franc.-wł. 23.15 „Sam zostałem z tej ferajny” — śpiewa Jarema Stępowski.





**Piątek, 30 lipca**

14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.10 Dla uczniów. 16.05 Panorama nowin. 16.20 Dla młodzieży. 17.30 Uroczyste zakończenie spartakiady narodów ZSRR. 19.45 Czas. 20.15 TV teatr miniatur. 21.25 Nowiny.

**Sobota, 31 lipca**

7.30 Nowiny. 7.45 Dla dzieci. 8.15 Przegląd międzynarodowy. 8.30 Koncert Edwarda Miansarowa. 9.00 Zdrowie. 9.30 Program młodzieżowy. 10.15 S. Prokofiew. 11.30 Po kraju. 12.00 Film fab. dla dzieci. 13.10 Poczta polowa. 13.40 Program literacki. 14.05 Klub robotniczy. 15.05 Teleturniej. 15.40 Rajd TV. 16.05 Koncert. 16.50 Ankieta. 17.20 Szkatułka muzyczna. 17.45 Panorama filmowa. 19.00 Czas. 19.30 Saga rodu Forsytów. 20.05 Śpiewa M. Pachomienko. 21.[illegible] Nowiny.

**Niedziela, 1 sierpnia**

7.00 Program dnia. 7.15 Nowiny. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Sztuka fotograficzna. 9.10 Koncert. 10.00 Białe i czarne. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 Skarby Ermitażu. 12.00 Spotkania muzyczne. 12.35 Świat socjalizmu. 13.00 Film fab. 14.30 Klub filmowy. 15.30 Dla wsi. 16.00 Nowiny. 16.05 Film dokument. 16.15 Twarze przyjaciół. 17.15 Koncert. 19.00 Czas. 19.30 Saga rodu Forsytów. 20.20 Wieczorny Leningrad. 21.05 Nowiny.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 152

* * *

Глядзі змярканне над гаем
а мы з табою світаем
два сонцы ліпнёвыя босыя
ходзяць павольна па росах
на начлегі ісці не схацелі
хай будзе ноч нам пасцеллю
з імглою чыстаю чыстаю
і з песняю сэрц урачыстаю



* * *

*Прыходзіць вечар*
*а ў нас не гасне сонца*
*прыходзіць ранак*
*а ў нас не гаснуць зоркі*
*зоркі і сонцы не знікаюць*
*ніколі з нашых краявідаў*
*прыходзіць вечар а мы свецім*
*прыходзіць ранак а мы свецім*
*мы найяснейшыя у свеце*

*Алесь Барскі*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

А мне не спіцца,
Непакоіцца.
Туга хлапечая
Не гоіцца.

Туга хлапечая —
Пякучая,
Нібыта крэсіва —
Сякучая...

О, клічуць пушчы
Закаханыя,
Дзе дрэвы з зоркамі
Цалуюцца,
Дзе задуменна
Апантаны я...
І песні — сполахі
На вуліцах.
І бавяць
Гулкія ваколіцы
Ў кругах вясёлкавых
Праз небаскрай...
І дзе б ні быў я,
У думках мроіцца
Мой родны край,
бацькоўскі край.



## ШЧАСЦЕ

*Людзі, людзі, о людзі!*
*Зямля на ўсіх адна.*
*Чуеце, як па-жаночаму міла*
*Ўздыхае яна.*

*Людзі, людзі, о людзі!*
*Неба на ўсіх адно.*
*Бачыце, як па-прыгожаму шчыра*
*Ўсміхаецца яно.*

*Людзі, людзі, о людзі!*
*Шчасце на ўсіх адно:*
*Гэту зямлю і гэтае неба*
*Нам берагчы дано!*



## ВОЧЫ

Вочы бываюць розныя —
Чорныя, шэрыя, сінія,
Страсныя і халодныя,
Добрыя і зласлівыя.

Свецяцца вочы радасцю,
Скаргаю вочы тлеюць,
Косяцца вочы зайздрасцю
І выражаюць надзею.

Плакаць умеюць вочы,
Вочы умеюць смяяцца,
Умеюць наперад крочыць,
Умеюць назад азірацца.

Вочы могуць і здраджваць —
Самае прыкрае ў лёсе.
Могуць вочы і ўражваць
Позіркам многагалосным.

Вочы людскія здольны
Шчыра кахаць і верна
І заставацца няўмольнымі
Пры непагодлівых ветрах...

Вочы бываюць розныя —
Люстра душы чалавечай...
Вочы, о вочы простыя,
Былі б вы толькі вечнымі!

*Міхась Мельнік*

## ЖАНЧЫНА

Старая жанчына
прыгнута
да зямлі гадамі
мары
практыкуе ўзорамі ўспамінаў
былога
— не вярнуць

марыць на яве
плача па начах
— ў кут паставіла
звялую ружу
аслабеўшая
старая
жанчына.

* * *

Склон зямлі
і мёд сонца малюю
у талерках вясны
падаеш чорны хлеб
труд белых рук
раздзяляеш
на каханне і гнеў
ты ведаеш
колькі светаў мае свет
— ты мне яго
паказала.

* * *

Я не знаю тваіх старон
не знаю дзе ты цяпер
веру
што думка твая
застукае ў дзверы



да якіх вяртаюся
штодзень

дарога ў нязнанае
ёсць шляхам да цябе
штодзень сонцам на блакіце неба
ноччу святлом зорак
на чэрні
запішу ў памяці колер
тваіх вачэй
і слова
тваіх
сноў.

* * *

У маіх марах
лёгкая
як подых траў
як цень хмараў
ў зялёнай вадзе сажалкі
ходзім па небе

З тваіх вуснаў
падаюць
пахучыя платкі
усмешкаў
з тваіх рук
злятаюць
белыя матылькі
мараў
вецер
ўплятаеш у валасы
і жаваранкі
заносіш пад неба

як дастацца да цябе
прыкуты да чорнай зямлі
цяжарам рэчаіснасці.

*Кастусь Бандарук*

## ДЗЯДЗЬКУ З ЛЕПЛЯ 80 г.





30 жніўня г. г. спаўняецца 80 год Антону Васілеўскаму, які выступае пад літаратурным псеўданімам «Дзядзька з Лепля». А. Васілеўскі з'яўляецца членам літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і друкаваўся ў «Ніве» і ў літаратурным альманаху, выдадзеным ГП БГКТ. Гэта найстарэйшы член нашага аб'яднання. Пачаў ён друкавацца яшчэ ў дваццатых гадах у віленскіх выданнях.

А. Васілеўскі цяпер з'яўляецца пенсіянерам і жыве ў Глівіцах. Нягледзячы на свае гады, праяўляе здзіўляючую жыццёвую бадзёрасць. І менавіта гэтай бадзёрасці, якою ўсе, хто ведае юбіляра, захапляюцца і якой яму зайздросцяць, жадаем «белавежскаму» патрыярху на наступныя гады.

* * *

Сваім думкам — птушкам
не падрэжу крылаў
хай на спадарожных
нябачаных хвалях
далятаюць туды
дзе канчаецца
чалавечая годнасць
дзе попел з дымам
засыпае вокны
з вобразам твару
сцягнутага грымасам
праклящця і страху —
у абломках справядлівасці
і праўды.

* * *

*Прыглядаецца вобразам —*
*люстэркам рэчаіснасці*
*вырытым у памяці*
*сілай адчуцця*
*сартуе вачыма*
*і голасам душы*
*кіруецца адвечным імпульсам*
*аддзяляючы ад іншых*
*як першы ад другога*
*хоча дасягнуць іх*
*сваімі прыкметамі*
*выбірае жамчужыны*
*расцвітаючыя ў жылах*
*зародкі характва*
*блізкія дасканаласці*
*чалавечай —*
*шукае сябе самога*

* * *

Над далінамі,
над раўнінамі
песня коціцца
цераз край.
Цёплай ноткаю,



жартам-шуткаю,
дагані яе,
затрымай.

І пусці ў эфір,
хай разгосціцца
у тваёй душы
кожны тон.
І ці ў шуме дня,
і ў глухой ціпы
будзе жыць яе
перазвон.

Няхай кожны гук,
як жывы, дрыжыць,
укладаецца
у мелодыю.
І на вуснах дня
застанецца жыць.
Запалоніць час,
завалодае.

*Л. Тапкевіч*

Пачатак на стар. 1

# Гавораць гаспадары

чоныя словы), што гной гэта найлепшае ўгнаенне. «У сувязі з гэтым не прымяняю столькі штучных угнаенняў, колькі мне прыдзелена (хаця купляю ўсю норму), бо збожжа выляжа. А як выляжа, то і мне няма, і дзяржаве не будзе, — закончыў гаспадар з Арэшкава.

У зале ажывілася. Здавалася, што гэта выкліча бурную рэпліку, асабліва з боку сядзячых тут улад. Але арэшкоўскаму гаспадару ніхто не адказаў. А ён жа і меў, і не меў рацыю. Меў, бо сапраўды мог ён вычытаць у старых кніжках, што гной найлепшы, што прымяняць штучныя ўгнаенні ў вялікіх колькасцях некарысна. На такіх падручніках вучыліся яшчэ многія нашыя працаўнікі сельскагаспадарчай службы. Але час робіць сваё.

Гаспадару з Арэшкава трэба даказаць, што гной толькі да пэўнай граніцы дае карысць, а потым не дзейнічае. Потым неабходна да гною даваць мінеральныя ўгнаенні. Але гаспадар меў яшчэ адну рацыю. Менавіта сказаў ён пра тое, што збожжа можа вылегчы. Так часта здараецца, што калі гаспадар дасць неадпаведную прапорцыю ўгнаенняў, збожжа вылягае. Трэба ўрэшце, каб гаспадар ведаў, і тое, што вельмі высокага мінеральнага ўгнаення патрабуюць інтэнсіўныя сарты збожжа. А пакуль што гэтых сартоў у нашым ваяводстве вельмі мала, але хутка мы іх атрымаем.

Герцун з Вярстка гаварыў аб іншых справах. Напрыклад, ГС мае кавальска-слёсарскі варштат, які павінен абслугоўваць гаспадароў. Аднойчы прывёў ён каня падкаваць, дык тут адказалі, што маюць іншую пільную работу, і падкаваць каня не захацелі. Прыводзіў ён прыклад, што 9 сакавіка г. г. звярнуўся ён да «зэсполу ўслуг» з просьбай аб выкананні працы. Тут сказалі, што заяву прымаюць, але работу могуць зрабіць не раней, чым у жніўні, а вядома ж, што ў жніўні гаспадару не да будовы.

І зноў вельмі важная справа — паслугі для сельскай гаспадаркі. Нельга тут прыпісваць злой волі працаўнікам з варштату. Не падкавалі, бо мелі больш паплатную работу. А як больш заробіць варштат, дык і ім будзе больш. «Зэспул услуг» таксама прыняў заяўку і згодна з чаргою вызначыў тэрмін.

Але ні ў адным, ні ў другім выпадку ніхто не падумаў, што гэта гаспадар, якому часта натура дыктуе свае правы і накладае абавязкі.

*А. Лабановіч*

# „Курпі зялёныя" у суседзяў за мяжой



*Калектыў «Курпі зялёныя» ў фінальнай сцэне канцэрта. А пачынаў сваю праграму песняй В. Мурадэлі «Песня дружбы», кожную зваротку якой выконваў на іншай мове: польскай, рускай, беларускай.*

Калі на Беласточчыне гастраляваў калектыў з Гродна «Нёман», беластоцкі калектыў «Курпі зялёныя» толькі што вярнуўся з Гродзеншчыны, дзе даў серыю канцэртаў.

Сардэчнасць і дружба паміж абодвума калектывамі вядзецца не толькі ад апошняга абмену ў бягучым годзе, хоць, як згодна сцвярджаюць беластоцкія курпякі, апошні выезд на Гродзеншчыну пераўзышоў усе іншыя, быў больш размашысты і надзвычай карысны.

«Курпі зялёныя» пабывалі на Гродзеншчыне ўжо пяць разоў, не лічачы выступленняў на граніцы, напрыклад, на мітынгу дружбы ў Бераставіцы. Іх апошні, пяты выезд быў найдаўжэйшым — шэсць дзён. Выступалі яны ў мясцовасцях: Гродна — у летнім тэатры пры 4-ох тысячах слухачоў, Масты — у доме культуры, Слонім — на летняй эстрадзе, Ваўкавыск — у доме культуры.

Нельга не пахваліцца 1,5-гадзінным канцэртам па гродзенскай тэлевізіі. Пару асоб з арганізатараў расказвалі нам, як яны, седзячы ў другой зале, глядзелі на жыва тэлевізійную праграму «Курпяў зялёных». «Мы выйшлі вельмі прыгожа», — сцвярджалі яны.

Для «Курпяў» арганізоўваліся экскурсіі у Мінск, Навагрудак. Адну сваю вячэру спажывалі яны над слаўнай Свіцяззю.

Калі «Ніва» спытала пра ўражанні, пачула: «Усюды нас віталі хлебам і соллю, віталі нас спецыяльныя дэлегацыі з кветкамі, піянеры ўручалі сувеніры, усюды многа і шчырага энтузіязму. На канцэртах людзі прымалі нас бурлівымі воплескамі, падымаліся са сваіх месц і дэманстравалі сімпатыю.

У Гродна на канцэрт «Курпяў» прыехала дэлегацыя мастацкага калектыву «Лідчанка» з Ліды, з якім беласточчане знаёмы ад часу пабыўкі «Лідчанкі» на Беласточчыне ў мінулым годзе. Таксама на гродзенскі канцэрт «Курпяў зялёных» прыязджалі адзіночныя асобы аж з Коўна».

На пытанне, што найбольш у праграме «Курпяў» падабалася на Гродзеншчыне, мне адказвалі: «Паланез» Агінскага. Але падабалася і тое, што калектыў свой канцэрт дае без перарываў, што ён увесь час у руху, што спявае і танцуе ўвесь калектыў. Спадабаліся таксама касцюмы.

Веслаў Дамброўскі — харэограф «Курпяў» быў задаволены, калі даведаўся, што на канцэрт прыйшлі вучні харэаграфічнага ліцэя ў Гродне і што запісвалі ўвагі з канцэрта.

Адносна абмену мастацкімі калектывамі існуе ў нас агульнае перакананне, што такое непасрэднае і жывое супрацоўніцтва найлепш служыць дружбе. Можна тут вучыцца і браць добрыя прыклады ад суседзяў з-за мяжы.

*Вера Леўчук*

Пачатак на стар. 1

# Праца для інвалідаў

захацеў адступіць нам на краму сваё ўласнае памяшканне, мы гатовы прыняць яго ў сваю спулдзельню, як поўнапраўнага члена і працаўніка, ды яшчэ будзем плаціць яму за памяшканне. У гэтым выпадку, як заўсёды ў нас, першынство даем інвалідам, бо ў нашай спулдзельні аж 75% усіх працаўнікоў — гэта інваліды. Дык кандыдаты павінны быць інвалідамі і мець на гэта пасведчанне адпаведных улад, не могуць быць караныя судом, павінны мець паручыцеляў.

Што ж, можа хто і з нашых чытачоў захоча выкарыстаць гэтую магчымасць. Выгадна ж інваліду ў сваім уласным памяшканні зарабіць, як бачым, не такія ўжо малыя грошы. А спулдзельня «Падляшша» стварае для гэтага шанцы. Яна паспяхова развіваецца. Яе фінансавыя абароты ў гэтым годзе, як спадзяецца старшыня, упершыню перавысяць нездабыты дагэтуль парог 100 мільёнаў злотых. У наступным годзе спулдзельня пашырыць сваю дзейнасць на Сямяціцкі павет, а яшчэ праз год яе крамы знойдуцца ў Ломжынскім і Сувальскім паветах.

— Тады заваюем мы, — сцвярджае старшыня Селяхоўскі, — цэлае ваяводства. Аднак трэба вам ведаць, паважаны рэдактар, што мы не толькі адзін гандаль маем на ўвазе. Па меры сваіх невялікіх магчымасцей стараемся ўпрыемніць жыццё сваім членам і працаўнікам у час, свабодны ад прафесіянальных заняткаў. Вось нядаўна 22 малышоў сваіх працаўнікоў выслалі мы ў летнія лагеры. Адпачываюць яны ў Гданьску, Лідсбарку Вармінскім, у Мікалайках і Моньках. Для дзяцей таксама штогод наладжваем гульні пры навагодняй ёлцы. У нядзелю 4 ліпеня г. г. нашы дзеці знаёміліся з Белавежай і захапляліся прыгажосцю Белавежскай пушчы. Для старэйшых таксама даволі часта стараемся наладзіць якую-небудзь экскурсію ў зялёныя прасторы, дзе вада і сонца.

І яшчэ я даведаўся пра адну высакародную справу, у якой мае свой удзел спулдзельня «Падляшша».

Ёсць у Замброве адзіная на Беласточчыне спецыяльная школа-інтэрнат, у якой знаходзяць прытулак дзеці, бадай што найбольш пакрыўджаныя лёсам: гэта недаразвітыя ўмыслова дзеці. Для іх няма месца ў нармальных школах.

Дык вось гэтай школай-інтэрнатам апякуецца спулдзельня «Падляшша». Для чатырох сіротак гэтай школы спулдзельня прызначыла ашчадныя кватэрныя кніжкі. Калі змогуць яны пакінуць гэтую школу, будуць мець уласныя кватэры і працу ў спулдзельні.

Болей гуманнага падыходу да чалавечай бяды цяжка спадзявацца. Гэта і вызначае істоту дзейнасці спулдзельні «Падляшша».

*В. Рудчык*

**Беларуская літаратура** — Аляксанар Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

ФРАНЦІШАК СКАРЫНА — частка V

Дагэтуль займаліся мы толькі фактамі з жыцця Скарыны. Справа аднак у тым, што біяграфія выдатных людзей складаецца не толькі з іх дзейнасці, але таксама з іх поглядаў, ідэй, думак. Якраз гэтым бакам жыцця Скарыны хочам прысвяціць пэўную ўвагу. Варта таксама шырэй, чым дагэтуль, заняцца характарыстыкай выдавецтваў Скарыны.

Скарына быў, несумненна, свядомы гістарычнай ролі сваёй выдавецкай дзейнасці. Аб гэтым могуць сведчыць тытульныя лісты кожнай з яго кніг. Як правіла, Скарына змяшчаў на гэтых лістах наступны тэкст: «Біблія руская выложена доктором Франціском Скаріною з славного града Полацка, богу ко чті і людям посполітым к доброму поученію».

Два разы Скарына змясціў у кнігах свой партрэт, што таксама сведчыла аб адступленні ад традыцыі безіменнасці ў рэлігійных сярэдневяковых аўтараў.

Ці значыць гэта, што Скарына быў дзеячом антырэлігійнага руху? Не. Скарына быў выдатным вучоным, лекарам, друкаром, але заставаўся пры гэтым тыповым сынам эпохі. Эпохі, не вызваленай ад рэлігіянства і памылковых поглядаў і нараканняў. Гэтая залежнасць ад эпохі выявілася ў тым факце, што адзінай кнігай, якую перакладаў Скарына, была «Біблія». У «Бібліі» бачыў ён крыніцу ўсіх навук і розных ведаў. Паводле Скарыны, з «Бібліі» можна вучыцца не толькі божаму закону, але і граматыцы, і логіцы, і матэматыцы, і іншым «сямі вызваленым навукам». З гэтага відаць, што ставіў ён перад сваім перакладам святога пісання канкрэтныя мэты. Мэты гэтыя моцна падкрэслены ў прадмове да «Псалтыра», выдадзенага Скарыной, як вядома, на стараславянскай мове. У прадмове гэтай Скарына сцвярджаў: «Детям малым початок всякое добрае, наукі, дорослым помноженіе в науце, мужам моцное утверженіе». З бліжэй не выясненых прычын таксама апошняя кніга Скарыны «Малая падарожная кніжыца» была перакладзена ім на стараславянскую мову. Аднак і тут, так як і ў «Псалтыры», многія незразумелыя стараславянскія словы тлумачыў Скарына на палях беларускімі словамі. «Малая падарожная кніжыца» гэта па сутнасці малітвеннік, прызначаны да шырокага ўжытку. Аднак, па-за рэлігійнымі тэкстамі, у «Малой падарожнай кніжыцы» змясціў Скарына цікавы каляндар, у якім ахарактарызаваў паасобныя месяцы і атмасферныя з'явы, апісаў найкарацейшы і найдаўжэйшыя дні года і г. д.

Праблема рэлігіі, веры, бога заставалася для Скарыны праблемай асноўнай. Лічыў ён, што «бог словам сваім» стварыў увесь свет, прыроду і людзей. Крытычныя тэндэнцыі ў адносінах да рэлігіі, якія нярэдка паяўляліся ў тагачаснай Еўропе, не даходзілі да Скарыны. Нельга ў ніякім выпадку згадзіцца з тымі сучаснымі даследчыкамі, якія стараюцца прадставіць Скарыну як апазіцыянера ў адносінах да тагачаснай царквы. Між іншым, такое неабгрунтаванае меркаванне выказвае Мікола Прашковіч, які сцвярджае: «...выданне Скарыной «Бібліі» не было звязана з яго прыхільнасцю да царквы» (М. Прашковіч, Францішак Скарына — беларускі першадрукар, Мінск 1970. с. 45). Дык з чым было звязана, калі не з царквою? Сур'ёзную частку жыцця Скарына прысвяціў перакладу і друкаванню «Бібліі», якую лічыў крыніцай рознародных ведаў, навукі і маралі. Амаль усе маральныя павучэнні Скарыны былі пачэрпнуты з «Бібліі», і царкоўнай ідэалогіі. Служыў Скарына ў віленскага епіскапа. Ці ж гэта не хапае, каб трактаваць Скарыну як вернага сына царквы?

Гісторыя, мінулае адзначаецца адной рысай. Можна іх пазнаваць, але нельга іх змяніць. Нельга змяніць і характару жыцця Скарыны. У трыццатыя гады вульгарызатарскія крытыкі называлі Скарыну цемрашалам-манахам і прапанавалі выкінуць яго з гісторыі беларускай літаратуры, сённяшнія крытыкі прадстаўляюць Скарыну як рацыяналіста і праціўніка царквы. Дзе праўда? Праўда, як гэта найчасцей бывае ў такіх сітуацыях, знаходзіцца пасярэдзіне. Скарына не быў цемрашалам — манахам і не быў праціўнікам царквы. Тагачасная Еўропа ведае многія постаці, на многа больш радыкальныя і на многа больш рэакцыйныя, чым Скарына. Але гэта не змяняе нашых адносін да Скарыны, які незалежна ад таго, ці мы рэлігійныя, ці матэрыялісты, застаецца для нас нацыянальнай гордасцю.

62.

гай і, хоць многае было яшчэ не зразумела і нявырашана, тым не менш з'явілася адчуванне, што галоўнае ў гэтай справе набывала лепшы кірунак.

Але Шнэйдар адрэагаваў на загад зусім нечакана. Не варухнуўшыся з месца, ён раптам пабялеў з твару, аднак не ад страху — ад страху бялеюць зусім інакш. Мусіць, гэта было асіленае ў сабе абурэнне, бясслоўны пратэст: у чорных вачах аўтаматчыка нешта ўзгарэлася і атухла. Ён ссунуўся ніжай і ціха, але выразна сказаў:

— Я не пайду.

— Што?

— Не пайду. Што хочаце — не пайду.

Ананьеў таксама пабялеў.

— Гэта чаму?

— Ён мяне абразіў. Я не магу.

— Ах, не магу! Растакую вашую, беларучкі праклятыя! А я — магу?..

Камроты пагрозна пасунуўся да аўтаматчыка, здалося ўдарыць, але не ўдарыў — у апошняе імгненне крута павярнуўся ад яго ўбок.

— Шапа!

— Я.

— Адвесці немца! — з суровай няўхільнасцю, якая ўжо адным сваім тонам выключала нязгоду, загадаў Ананьеў.

Шапа з гатоўнасцю тузануў затвор аўтамата і скочыў да немца.

— Марш!

— Ды не марш! Бяры пад руку і валяй! І не трусь — прыкрыем. Кулямёт сюды.

Батурбаеў узбег на адхон, зноў устанавіў кулямёт, за які, рашуча адхінуўшы кулямётчыка, зноў лёг камроты.

Шапа падхапіў немца пад руку і ўзвалок яго на насып дарогі.

*

Аднак кулямёт не спатрэбіўся, ніякага ашуканства не было. Як ні дзіўна, а праз дваццаць хвілін, жывы і нават павесялелы, Шапа прывёў Чумака, які, сышоўшы з насыпу, стаў ля канавы, ні разу ні на каго не глянуўшы. Затое на яго цяпер глядзела ўся рота. Хлопцы забыліся на свае недакапаныя акопчыкі, на макрэдзь, нават страцілі цікавасць да рэчмяшка з сухарамі, што яшчэ непадзеленыя ляжалі на адхоне — усе, як на дзіва, з недаўменнем глядзелі на недарэку-аўтаматчыка.

Ананьеў, набычыўшы ўскудлычаны галаў, зверавата прасачыў з-пад ілба за яго няўпэўненай, хісткай хадой. Калі аўтаматчык спыніўся, ротны марудліва падняўся на адхоне.

— Ну! — сказаў камандзір роты, і ўсе ўраз сціхлі. — Ну, палоннічак! Чаму не застрэліўся?

Чумак тады ўпершыню падняў ад долу дарэшты разгублены, атупелы позірк і неяк коса, боязна і жалліва паглядзеў на камандзіра роты.

64.

пакуль што не пашле пад арышт. А там ці мала як усё можа перайначыцца... Мы праводзілі небараку трохі павесялелымі позіркамі, і, калі абодва дабеглі да кусцікаў, дзе ўжо было схоўна, Ананьеў закрычаў на байцоў:

— Што разявіліся? А ну, капаць! А то і адсюль драпанеце! Заечая парода!

— Не драпанём, — бяскрыўдна сказаў хтосьці ў ланцугу.

Камандзір роты паглядзеў у бок кусцікаў.

— Яго шчасце, што гэты фельдфебель папаўся. Хаця... — ён пашукаў вачмі Шапу. — Данясенне ўручыў?

— Уручыў, таварыш старшы лейтэнант. Самому камандзіру палка.

— Што ён сказаў?

— Сказаў: маладзец Ананьеў.

Камроты зморшчыўся, нібы ад болю.

— Лепш бы ты яго згубіў, камандзіра палка не знайшоў. На якога хрэна ты яго ўручыў?

Шапа паціснуў плячыма і сеў. Ананьеў даволі паныла ўздыхнуў.

— Вось так заўжды. Толькі настараешся дзе, тут цябе як шарахне! На нагах не ўстоіш. Ды яшчэ гэты чмур...

— Таварыш старшы лейтэнант, — зацікаўлена пад'ехаў Шапа, — гэта сапраўды яго ў штрафную?

— А ты што ж думаў? У бірулькі тут вам гуляць? Вайна — не хаханькі.

— Калхознік ён... — зазначыў Шапа, нібы гэта само сабой усё вытлумачвала. — Чацвёра дзяцей...

Ананьеў няпэўна паёрзаў на адхоне.

— Чацвёра, чацвёра...

І, падхапіўшыся, амаль вызверыўся на Шапу:

— Што ты мне дудзіш: чацвёра! Хоць сто!

Шапа болей не дудзеў, наставіў ад ветру каўнер і бокам прылёг на адхон.

— Вунь камісар бяжыць, — сказаў ён спакойна.

Дзіўна, Ананьеў нібы чакаў таго, хуценька азірнуўся, і заклапочаны твар яго спахмурнеў яшчэ болей. Але гэта толькі на секунду. Тут жа ён строга самкнуў над пераноссем бровы і павярнуўся да нас з Шапам:

— А вы чаго? Чаго ляжыце? А ну, марш акопвацца! Ядрона вош! Я вам пакажу, разумнікі!

Што ж, капаць — справа няхітрая. Шапа адшпіліў ад дзягі трафейную нямецкую лапатку, і, адышоўшыся на пяць крокаў, ёмка падрэзаў ёю дзірван. Мне ж капаць не было як і нечым, таму я ціха сядзеў на адхоне, прытрымліваючы пад шынялём параненую руку.

Аднак Шапа перабольшваў, сказаўшы, што Грыневіч бяжыць — наміаліт ледзьве клыпаў, здорава кульгаючы на левую нагу і штораз пазіраючы то на вышыню, то на нас ля дарогі. Ён яўна спяшаўся ці то па нейкай справе, ці, можа, баючыся немцаў, якія пакуль што абыходзілі нас сваёй увагай і сваім агнём.

## ПА БЕЛАРУСКІХ КУРОРТАХ



*Дом адпачынку «Свіцязь». Размешчаны ён на беразе аднайменнага, цудоўнага возера, якому столькі натхнёных радкоў прысвяціў вялікі Адам Міцкевіч.*



*Дом адпачынку «Ждановічы». Адпачываючыя прымаюць сонечныя ванны.*

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...зараз у савецкіх навукова-даследчых установах і ў вышэйшых навучальных установах займаецца 800 тысяч навукоўцаў; складае гэта чацвёртую частку ўсіх навуковых работнікаў.

*

...у Польшчы акліматызаваліся тры гатункі дрэў іншаземнага паходжання з ЗША і Канады. Да іх належаць даглезія, сасна-вэймутка і чырвоны дуб.

*

...з 32 589 тысяч грамадзян нашай краіны 9 620 тысяч мае ўтрыманне перш за ўсё з сельскай гаспадаркі, што складае 29,5 прац. Для параўнання — перад вайною з сельскай гаспадаркі ўтрымоўвалася дзве трэція ўсіх жыхароў краіны. Маючы на ўвазе гэта, варта адзначыць, што існуюць вялікія супярэчнасці паміж паасобнымі раёнамі нашай краіны. І так, напрыклад, у катавіцкім ваяводстве з сельскай гаспадаркі ўтрымоўваецца каля 6,5 прац. людзей, а ў Беластоцкім — 52,4 прац.

(яц)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЯК СТАВІЦЬ НА ЗІМУ КАПУСТУ

Атрымалі мы ліст (праўда, без подпісу) ад нашага сталага чытача. Дзядзька з Клюковіч, Сямяціцкага павета, піша: «Просьба. І. Я, ваш сталы чытач, прашу, каб вы напісалі, як саліць агуркі, колькі трэба солі на літр вады. 2. А яшчэ пра засол капусты. Гэта ўжо, напэўна, капуста ідзе на вагу, ды і соль таксама. Напішыце, калі ласка, бо нашы жонкі даюць то мала, то многа і толькі ўсё псуюць».

Дзядзька! Ці вы не занадта моцна крытыкуеце сваіх жанчын? А мы ў горадзе, ці ж не вашую капусту, ды кіслыя агуркі купляем ды хвалім? У кожным разе просьбу нашага чытача з прыемнасцю выконваем.

1. Кіслая капуста. На зіму найлепш ставіць зімовыя сарты белай капусты. Капусту можна саліць у бочках (найлепш з цвёрдага дрэва; бочкі працякаюць, можна ўшчэльніць парафінам), у каменным посудзе, у слоіках. Посуд гэты перад засолкай капусты павінен быць добра вымыты і выпараны.

Галоўкі капусты ачысціць, нашаткаваць нажом ці шаткаўніцай (качаны капусты перад шаткаваннем густа панадразаць). Нашаткаваную капусту вымяшаць з прыправамі, беручы на 10 кг капусты 200 грамаў белай солі, 20 грамаў кмену, 10 грамаў насення ўкропу. Как капуста была смачнейшая, можна яшчэ дадаць 250 грамаў нашаткаванай морквы, 500 грамаў нарэзаных на чвэрткі яблыкаў, некалькі лаўровых лісткоў.

Капусту складваць у бочкі ці іншы посуд, добра ўбіваючы драўляным таўкачом. Калі выдзеліцца пры гэтым замнога соку, можна яго адліць. Накладаць капусту ў посуд не надта поўна, каб сок капусты, які будзе выдзяляцца ў часе ферментацыі, не выліваўся. Зверху капусты палажыць вывараны кавалак палатна, а на яго добра вымытае і выпаранае драўлянае дэнка. На дэнка палажыць вымыты камень, які не крышыцца.

Посуд з капустай паставіць у цёплым месцы (тэмпература каля 18°С) на 1—2 дні, а пасля перанесці яго ў халоднае памяшканне, напрыклад, у склеп з тэмпературай 8—10°С. Там капуста будзе кіснуць далей.

У першыя дні капусту можна прабіваць чыстым драўляным кіем. Гэта будзе спрыяць ферментацыі і выдзяленню газаў.

Неабходна звяртаць увагу, каб як у перыяд салення капусты, так і пасля, у часе перахоўвання, паверхня капусты была заўсёды пакрыта сокам. У іншым выпадку яна будзе лёгка плеснець або гнісці. Калі ў тым часе, калі капуста ўкісае, выдзяляецца замала соку, неабходна даліць салянкі, беручы на 1 літр кіпячонай халоднай вады 20 грамаў солі. У час перахоўвання капусты неабходна знімаць з яе паверхні плесень, а дэнка за кожным разам мыць і выпарваць. Палатно трэба вываріваць.

Аб саленні агуркоў напішам у наступным нумары.

*Гаспадыня*

## ПРАЎДА АБ ВЫРАТАВАННІ ЭКСПЕДЫЦЫІ НОБІЛЕ

10 чэрвеня Нобіле ўдалося ўстанавіць прамую сувязь з італьянскім выратавальным суднам «Чыта-дзі-Мілана». Увесь свет даведаўся, нарэшце, каардынаты генерала Нобіле. У паўночныя шыроты накіраваліся 12 суднаў. Аднак ні аднаму не ўдалося прабіцца за 77-ю паралель.

Еўропа элегантна апладзіравала высакароднасці Амундсена. Нарвежац заявіў, што ён вышэй за асабістыя антыпатыі і збірае сваю прыватную экспедыцыю на дапамогу Нобіле.

Між тым савецкія ледаколы ішлі на Поўнач. «Малыгін» крышыў метровыя льды ўсходняга ўзбярэжжа Шпіцбергена. «Красін» варочаў двухметровыя глыбы на заходнім. Крыху ззаду для сувязі курсіраваў «Персей». Лётчыкі Чухноўскі на «Красіне» і Бабушкін на «Малыгіне» рыхтаваліся да далёкіх палётаў. Інстытут Арктыкі і Антарктыкі аператыўна апрацоўваў метэаданыя. Дакладнасць, прадуманасць, спакой... Маланкавае праходжанне радыёграм. Але якой цаной давалася немагчымае! 21 чэрвеня «Малыгін» апынуўся ў лядовай мышалоўцы. Судна намёртва скавалі льды. «Красіну» даводзілася не лепш. У замежных экспедыцыях пра «Красіна» ўсур'ёз загаварылі толькі тады, калі савецкі ледакол апынуўся «раптам» на поўнач ад Шпіцбергена.

Адсюль, з лядовага аэрадрома, пачаў свой гераічны палёт Барыс Чухноўскі. Ён вылецеў да лагера Нобіле, яшчэ не ведаючы, што праз тры гадзіны здабудзе сусветную славу. Вось яна, гістарычная радыёграма Чухноўскага з борта «Чырвонага мядзведзя» (пад такой назвай яго самалёт увайшоў у лядовую хроніку тых дзён): «Мальмгрэн знаходзіцца на шыраце 80 градусаў 42 мінуты. Выбару пасадкі не было...» Пра гэты ўзлёт італьянскі журналіст Давід Джудзічы, які знаходзіўся на борце «Красіна», радзіраваў у Рым. «Толькі лётчык, які вырашыў скончыць жыццё самагубствам, мог адважыцца ўзляцець на такім аэрадроме».

Але чаму раптам замаўчала радыё Чухноўскага? Ага, зноў марзянка: «Селі на ледзяное таросістае поле. У канцы прабегу знесла шасі. Лічу неабходным «Красіну» неадкладна ісці на выратаванне Мальмгрэна. Чухноўскі». Вось так: не да яго, Чухноўскага, не да «Чырвонага мядзведзя», які апынуўся на небяспечным лёдзе, а на дапамогу Мальмгрэну.

На мінуту зноў вернемся ў лагер Нобіле, дзе за некалькі

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ЧЫЖОЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Грамадская бібліятэка ў Чыжах, Гайнаўскага павета, налічвае 4000 кніжак (у тым ліку 510 кніжак на беларускай і рускай мовах) і 460 чытачоў. Кіруе яна працай 7 бібліятэчных пунктаў, з якіх найлепшымі з'яўляюцца пункт у Асоўцы (загадвае ім Тамара Іванюк) і ў Збучы (Людміла Тыханюк). Найбольш кніжак у чыжоўскай акрузе чытаюць Ірэна Тамашук (настаўніца), Янка Вялесюк (селянін), Ян Капейчык (70-гадовы жыхар), а таксама Рая Каспшак, Вера Фірсюк, Галіна Шыманюк і Мікалай Бількевіч. Беларускія кніжкі найбольш чытаюць Яўген Якімюк, Ян Капейчык і Яўген Тамашук. Чыжоўская бібліятэка ў апошні час прымала ўдзел у сельскагаспадарчым конкурсе (ўдзельнічала ў ім 60 чалавек) і ў маладзёжным конкурсе пад загалоўкам «Выбіраем свайго героя» (72 асобы). І месца ў грамадскіх элімінацыях конкурсу «Выбіраем свайго героя» заняў вучань VIII класа Яўген Васілюк з Лянева.

Варта адзначыць, што пры бібліятэцы актыўна дзейнічае гуртох сяброў бібліятэкі, які дапамагае бібліятэкаршы ў працы, між іншым, пры арганізаванні вечарын казак для дзяцей, пры парадкаванні кніжак на бібліятэчных паліцах, пры абкладванні кніжак і г. д. (яц)

## ПАТРЭБНЫ МАЛОЧНЫ БАР

У Гайнаўцы дагэтуль няма малочнага бару. А шкада, бо прыязджае сюды многа турыстаў, а таксама і гайнаўчане ахвотна карысталіся б з яго. У Гайнаўцы ёсць дзве сталовыя — «Гайнавянка» і бар «Экспрэсс». У новым бары «Экспрэсс» можна дастаць не толькі піва, але і «сто грам». Нічога тады дзіўнага, што адразу стаў ён прыстанішчам п'яніц. А вось тым часам адчуваецца ў Гайнаўцы недахоп малака і малочных вырабаў у сталовых. Варта пры гэтым адзначыць, што на Гайнаўшчыне малака ёсць пад дастаткам. (яц)

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ:

Ці можа быць установлены праз суд бацькам дзіцяці мужчына, калі ён дакажа ў судзе, што ў той час, калі жанчына можа зацяжарыць, утрымоўвала яна цялесныя адносіны і з іншымі мужчынамі?

АДКАЗ:

Мужчына, які не з'яўляецца мужам маці дзіцяці, прызнаецца бацькам гэтага дзіцяці, калі ўстаноўлена, што не даўней, як у трохсотым і не пазней, чым у сто восемдзясят першым дні перад нараджэннем дзіцяці ўтрымоўваў з маткай дзіцяці цялесныя адносіны. Тое, што ў гэтым часе жанчына ўтрымоўвала цялесныя адносіны з іншымі мужчынамі, не з'яўляецца перашкодай да прызнання аднаго з гэтых мужчын бацькам дзіцяці.

Таму мужчына — адказчык у справе судовай аб устанаўленні бацькоўства, калі ён у часе, вышэй пададзеным, утрымоўваў цялесныя адносіны з маткай дзіцяці, абароніцца толькі ў тым выпадку, калі дакажа, што бацькоўства іншага мужчыны больш праўдападобнае. Прыклад: адказчык утрымоўваў адносіны ў двухсотным дні перад нараджэннем дзіцяці, а іншы мужчына два месяцы раней, а дзіця нарадзілася даношаным. У гэтым выпадку бацькоўства другога мужчыны больш верагоднае.

Ён абароніцца таксама ў выпадку, калі экспертыза крыві бацькі, маткі і дзіцяці выключыць бацькоўства адказчыка.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

*ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!*

Пазнаёміліся мы з Валікам на сільвестравым балі. Ён мне вельмі спадабаўся і я яму таксама. Пачалі мы штораз часцей спатыкацца і праз месяц часу пастанавілі пажаніцца. Былі нават у маіх бацькоў і абмеркавалі справу. Праз нейкі час Валік прыслаў мне пісьмо, што вымушаны адлажыць наш шлюб з прычыны браку грошай. Так вось прайшло ўжо пару месяцаў і мы нічога аб шлюбе не ўспамінаем. Зрэшты, калі аб гэтым не ўспамінае Валік, мне ж не выпадае пачынаць такую размову. У апошні час я спаткала другога хлопца, Аліка, які мне вельмі спадабаўся, бо цяпер ужо Валік мне не так падабаецца, як тады. Мы часта з ім ходзім у кіно, бо жывем у адным горадзе. Валік піша, што не можа да мяне так часта, як перад гэтым ездзіць, бо мае заняткі такія ці іншыя. А мне нядаўна сказалі, што Валік мае дзяўчыну, толькі тады, калі са мной пазнаёміўся, з ёю пасварыўся.

Што мне, дарагое Сэрцайка, рабіць: ці сядзець у хаце і чакаць Валіка, нашага шлюбу, ці сябраваць з Алікам, які мне больш падабаецца. (Мне 19 год, Валіку — 23).

*Жэня з Б.*

*Жэня!* Відаць, што і ты, і Валік думалі несур'ёзна — спаткаліся, спадабаліся, дык і вызначылі тэрмін шлюбу. Аднак, відаць, пазней абое вы перадумалі, толькі кожны з вас баіцца першым пачынаць гаворку на гэтую тэму. І вельмі добра, што не дайшло да шлюбу. Здаецца мне, што нічога не перашкаджае сябраваць табе з Алікам. А гаворкі аб шлюбе з Валікам, на маю думку, не трэба і пачынаць. Пачакайце, час пакажа, як паступаць у далейшым.

*Сэрцайка*

*Авечкі.*

*Фота: Я. Цялушэцкі*

## Ніхто не ўключыўся

У канцы чэрвеня г. г. ваяводскі штаб акцыі «Шафёр, дапамажы дзіцяці!» у Беластоку падсумаваў вынікі. Акцыя «Шафёр, дапамажы дзіцяці!» датычылася дапамогі перш за ўсё наймалодшым школьнікам, якія штодзень ходзяць у школу і са школы па некалькі кіламетраў ці то ў люты мароз, ці ў завіруху. Паводле падлікаў, у акцыі прымала ўдзел 66 шафёраў з 15-ці паветаў. Варта адзначыць, што ваяводскі штаб для папулярызацыі гэтай гуманнай акцыі наладзіў сувязь з 40 прадпрыемствамі, якія маюць у сваім распараджэнні вялікія колькасці аўтамашын.

На жаль, не ўключыўся ў акцыю ніводзін шафёр з Гайнаўшчыны. Ці сапраўды ўсім шафёрам з Гайнаўскага павета справа дапамогі дзіцяці з'яўляецца справай зусім абыякавай? Ці сапраўды ўсе яны такія бессардэчныя? Аказваецца, справа выглядае інакш. Былі ахвотныя прыступіць да яе шафёры з Гаймахлесу. Толькі з-за недагляду маладзёжных арганізацый, а перш за ўсё павятовага штаба акцыі пры павятовым праўленні ЗМВ і аддзела камунікацыі не маглі яны яе прадаўжаць, а затым сфіналізаваць. Чаму так здарылася, невядома. Дык кіруем гэтыя словы крытыкі ў адрас тых, хто замест папулярызаваць акцыю «Шафёр, дапамажы дзіцяці», умярцвіў яе. Тое ж можна сказаць і пра саміх кіраўнікоў школ і настаўнікаў.

Каму як каму, але педагогам гэткі пачын ніколі не павінен быць абыякавы. Яны найлепш бачаць і ведаюць, наколькі змучанае падарожжам дзіцё можа пільна сачыць за ўрокам.

Нам здаецца аднак, што кожны настаўнік хоча дабра вучню і вучань заўсёды можа лічыць на яго дапамогу. Справа толькі ў тым, што настаўнікі (пэўна, не ўсе) не зацікавіліся шырэй акцыяй «Шафёр, дапамажы дзіцяці!». Можа нават замала папулярызавалі, або не давялі яе да канца, да апошнік падлікаў. (яц)

Мілейчыцы.

*Фота: Я. Цялушэцкі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 3—4. „Miraż" (USA), 5—6. „Effi Briest" (NRD), 7—8.

**Нараўка**

„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 4—8.

**Нарва**

„Album" (polski), „Drugi tor" (NRD), 4—8.

**Чыжы**

„Twarz anioła" (polski), „Kosmos wzywa" (radz.), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 4—8.

**Арэшкава**

„Dżamila" (radz.), „Gang Olsena" (duński), 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 4—8.

**Орля**

„Ostatnie wakacje" (radz.), „Znaki na drodze" (polski), 4—8.

**Райск**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Los człowieka" (radz.), 4—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Świat grozy" (polski), 3—4. „Skąpani w ogniu" (polski), 5—6. „Ambasadorowie nie mordują" (NRD), 7—8.

**Янаў**

„Świeć moja gwiazdo" (polski), 4—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Niepokoje wychowanka Torlessa" (NRF), 3—4. „Wilcze echa" (polski), 5—6. „Mały" (polski), 7—8.

**Мельнік**

„Prywatna burza" (czeski), 3—4. „Otello z prowincji" (węg.), 5—6. „Napad stulecia" (angl.), 7—8.

**Мілейчыцы**

„Romanca na trąbkę" (czeski), 3—4. „Na tropach szpiega" (radziecki), 5—6. „Po kruchym lodzie" (radz.), 7—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Południk zero" (polski), „Dziki swobodny" (angl.), 4—8.

**Новы Двор**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Słoń Maruda" (angl.), 4—8.

---

дзён да гэтага зрабіў на авіетцы майстарскую пасадку швед Шыберг. Што ўбачыў Шыберг на льдзіне? Ён убачыў Чачоні, які поўз з перабітымі нагамі да самалёта, змучанага Вільеры, аслепшага ад снежнай хваробы чэха Бегоунека. Што робіць Шыберг? Забірае зусім здаровага суайчынніка Лундбарга. Таго самага Лундбарга, які на ўвесь свет цынічна заявіць: «Дзякуй богу, што мяне выратавалі да прыходу «Красіна» і я пазбегнуў неабходнасці вітаць савецкі сцяг». Зайздросная палітычная прынцыповасць! Ці не за яе кавальера Чачоні тры гады затым правёў на кастылях?

Над вечнай маўклівасцю раўла сірэна Красіна. Напружваючы ўсе свае паравыя сілы, «Красін» спяшаўся ва ўказаны Чухноўскім квадрат.

— Людзі! Бачу людзей!

Марыяна і Цапі. А дзе ж Мальмгрэн? Ужо ў судовым лазарэце Цапі сказаў: «16 чэрвеня за некалькі міль на паўднёвы ўсход ад вострава Броў Мальмгрэн не быў у стане працягваць шлях і сказаў, каб мы ішлі далей адны, забраўшы з сабой усе наяўныя прадукты. Мальмгрэн прасіў выкапаць яму магілу ў лёдзе, куды ён лёг, а мы пайшлі далей...»

Моцна захоўвае Арктыка тайны. Вось і гэта не разгадана да сённяшняга дня. І як дзіўна гучыць для нашага вуха: выкапалі магілу, ён лёг... На Цапі была футравая куртка Мальмгрэна. Ён сцвярджаў, што не еў 12 дзён. Абследаванне, праведзенае на «Красіне» доктарам Сраднеўскім паказала, што Цапі не еў самае вялікае 2 дні.

Між тым «Красін» зноў запытаў Чухноўскага, які зрабіў пасадку кіламетраў за сорак ад яго. Той адказаў, што яшчэ можна трымацца, і патрабаваў, каб «Красін» прабіўся ў лагер Нобіле. Тое, што для савецкага лётчыка Чухноўскага было нормай паводзін, у Еўропе аказалася сенсацыяй дня: «Чырвоны мядзведзь» згодзен на добраахвотную гібель», «Чухноўскі знаходзіць сяброўства белых мядзведзяў прыемным». Ад Нобіле прыйшла кароткая тэлеграма: «Цалую Чухноўскага».

Гэта быў фантастычны рывок «Красіна» праз суцэльныя льды. Падабраўшы на борт групу Мальмгрэна (без Мальмгрэна) і групу Нобіле (без Нобіле), «Красін» працягваў лядовы рэйс. Далей здарылася неверагоднае: італьянскі ўрад прапанаваў Асавіяхіму спыніць далейшыя пошукі. Пайшоў у Італію «Чыта-дзі-Мілана», спынілі выратавальныя работы фіны, шведы, нарвежцы. І толькі «Красін» усё лета вандраваў сярод ільдоў. Адгукніся, Амундсен! Адгукніцеся, шасцёрка герояў, якія зніклі з абалонкай дырыжабля!

Надыходзіла цёмная палярная зіма. На мысе Ніль «Красін» пакінуў некалькі соцень кілаграмаў прадуктаў — людзі знойдуць іх, калі выйдуць на сушу. Метэастанцыі свету папярэджвалі «Красін»: ён стане палоннікам ільдоў, калі неадкладна не пакіне высокія шыроты.

Легендарны карабель пакідаў Арктыку апошнім.

*В. Ляшэнка*

*ЦІ ВЫ ЎЖО ЗРАБІЛІ ПАДПІСКУ НА «НІВУ»?*

*На рэчцы Нараўцы.*

*Фота: Я. Цялушэцкі*

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.673 E-3

